 


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 45 (976) ГОД XIX 10 ЛІСТАПАДА 1974 г. ЦАНА 60 гр.


З ПЕСНЯЙ НАСУСТРАЧ XXX-годдзю ПНР



**ДУЭТ З ОРЛІ**

Удзельнікі сёлетняга цэнтральнага агляду БГКТ Мікалай Лапух і Яўгеній Бало з Орлі Бельскага павету.
Фота А. Карпюка.

*Новыя вершы*

**ЧЫМ БОЛЬШ ЖЫВУ**

*Чым больш жыву, чым больш сталею,*
*Смялей мае лятункі мар,*
*І мне здаецца — разумею*
*Гамонку ветру, зор і хмар.*
*Мне змалку слухаць давялося,*
*Як быццам голас іх жывы —*
*Гамонку дрэў, вады, калосся,*
*Гамонку лісця і травы.*
*Я слухаў ветру сказ напеўны*
*І грозны гул аж да зямлі,*
*Я слухаў гоман хмараў гнеўны,*
*Як заспрачаюцца калі.*
*Бы выхваляюцца тым часам,*
*Хто з іх мацней перакрычыць,*
*Пакуль пярун не сцішыць басам,*
*Не спудзіць бляскам бліскавіц.*
*Гамоніць жыта, быццам мора,*
*Гудзіць вакол: — прыйдзі, сажні...*
*А ты прыслухайся, як зоры*
*Нібы пяюць у вышыні.*
*Вады ля млына гоман чую.*
*Нялёгка жорны мне круціць,*
*Гамонку лісця дрэў такую*
*Аб тым, як ім даўжэй пражыць.*
*І гэта ўсё мне блізка, родна.*
*Нібы ад сэрца, ад майго —*
*І я з усімі імі згодны,*
*І мне б хацелася таго!*

**Пятрусь Броўка**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

**У крынкаўскіх гарбароў ● У беластоцкім гарадскім аддзеле ● Сонца для Гайнаўшчыны ● Першая казка аб праўдзе ● Месца Чорнага ў нашай літаратуры ● Паляванне на „Бізона“ ● Весткі з Паўлаў, Масева, Белавежы, Тафілаўцаў, Спічкаў, Нараўкі, Гайнаўкі і інш. ● Песня з рэпертуару Ірэны Яроцкай „Nie wrócą te lata”.**

**XV ПЛЕНУМ ЦК ПАРП**

22 і 23 кастрычніка адбылося ў Варшаве XV пленарнае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі. На павестцы дня стаяла справа: **„За далейшае паляпшэнне харчавання народа і развіццё сельскай гаспадаркі“.**

Палітбюро нашай партыі паставіла на абмеркаванне пленума Цэнтральнага Камітэта перспектыўную праграму развіцця харчовай гаспадаркі краіны да 1990 года.

## ХАРЧЫ — АСНОЎНАЯ ПАТРЭБА ЧАЛАВЕКА

Так шырокага і ўсебаковага падыходу да праблем сельскай гаспадаркі краіна наша яшчэ не ведала. У гэтым праяўляецца паслядоўная рэалізацыя прагамных указанняў VI з'езду партыі.

„Харчаванне з'яўляецца асноўнай патрэбай чалавека“, — гаварыў у дакладзе І сакратар ЦК ПАРП Эдвард Герэк. — Ад якасці харчавання залежыць здароўе грамадства і фізічнае развіццё маладога пакалення. Багатае і рацыянальнае забеспячэнне харчовых патрэб народа — гэта неад'емная частка нашай праграмы будаўніцтва грамадскага дабрабыту, які з'яўляецца гуманным зместам сацыялізма“.

Таму з такой увагай кіраўніцтва партыі і ўрада адносіцца цяпер да праблем сельскай гаспадаркі. На працягу 1971-74 гадоў пастаўка харчовых прадуктаў насельніцтву павялічылася аж на 50 працэнтаў. „Такой высокай дынамікі сельскагаспадарчай прадукцыі і пастаўак харчовых вырабаў у магазіны, — адзначыў І сакратар, мы яшчэ ніколі дагэтуль не мелі. (...) Дзякуючы значнаму павышэнню вытворчасці харчовых прадуктаў мы змаглі на працягу апошніх чатырох гадоў утрымаць на нязменным узроўні цэны на асноўныя харчовыя прадукты і прыняць пастанову аб прадаўжэнні гэтага прынцыпу таксама на 1975 год“.

Людзей нам прыбывае. Вось у Беластоцкім ваяводстве ў гадах 1946-1973

**(Працяг на стар. 2)**



*Фрагмент адной з установак плоцкага нафтакамбіната.*





Гісторыя будаўніцтва плоцкага нафтаперапрацоўчага і нафтахімічнага камбіната распачалася ў 1960 годзе. Яшчэ раней было падпісана пагадненне паміж Савецкім Саюзам, ГДР, Чэхаславакіяй і Польшчай аб будаўніцтве гіганцкага трубаправода для транспарту нафты з СССР у спамянутыя краіны. Трубаправод, якому прысвоена імя „Дружба“, налічвае каля 4,5 тыс. кіламетраў і з'яўляецца найвялікшай нафтавай магістраллю на свеце. Праз Польшчу праходзіць 700 кіламетраў трубаправода, а яго частка праходзіць праз паўднёвую тэрыторыю нашага ваяводства.

У жніўні 1964 года распачала прадукцыю першая атмасфераваакуумная трубчатка для дыстыляцыі нафты і былі атрыманы першыя тоны нафтапрадуктаў. Урачыстасць, звязаная з пускам так званага І этапа вытворчасці, адбылася 21 кастрычніка 1964 г., напярэдадні гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

У гэтым, юбілейным годзе Народнай Польшчы, Мазавецкі нафтаперапрацоўчы завод у Плоцку святкаваў сваё дзесяцігоддзе. Плоцк стаў сёння найвялікшым пляцам будовы ў гісторыі польскай хіміі.

На плоцкім нафтахімічным камбінаце быў я сем гадоў таму назад. Тады шукаў землякоў, якія яго будуюць або працуюць тут. Сёлета ехаў сюды па запрашэнню галоўнага дырэктара камбіната праф. др інж. Уладзіміра Катоўскага. Адчуванні былі розныя, але здавалася мне, што ўсё ж такі пазнаю горад, пазнаю знаёмыя мне агні камбіната. Нічога падобнага. Не пазнаў я ні горада, ні дарогі на камбінат, ні нават гасцініцы „Петропаль“, у якой я жыў некалькі дзён у час маёй першай пабыўкі. Не пазнаў таму, што выраслі тут новыя жыллёвыя кварталы. Толькі завод сваім рабочым пабудаваў тут 4 тыс. новых кватэр. Выраслі новыя крамы, дамы бытавога абслугоўвання, культурныя ўстановы.

Перад сустрэчай з дырэкцыяй камбіната наведваю завод. Аўтобус падвозіць нас пад устаноўку для вытворчасці этылена-прапылена. Прапылен — гэта сыравіна для вытворчасці пластмасы, адпорнай на нізкія і высокія тэмпературы. З прапылену вырабляюцца вельмі эстэтычныя чамаданы, якія не лопаюцца і не ламаюцца. Наведваю яшчэ некалькі ўстановак, але хто ж іх усе зве-

**(Працяг на стар. 4)**

СУСТРЭЧЫ З ЗЕМЛЯКАМІ





Сустрэцца дагаварыліся па тэлефону. Дацэнт доктар інжынер **Георгій Гнеўшэў** коратка заявіў:

— Чакайце мяне ў кафэ „Панчошнікаў“ на вуліцы Піўнай. Буду там а 16-ай.

Да гэтага часу мы яшчэ не бачыліся ані разу, не ведалі адзін аднаго. Толькі яго знаёмыя шчыра рэкамендавалі яго мне:

— Гэта цікавы, — гаварылі, — вельмі здольны і сімпатычны чалавек.

Доўга я блукаў сярод цудоўных завулкаў старэйшай часткі горада Гданьска, пакуль трапіў у кафэ **„Панчошнікаў“**. Яно знаходзіцца на набярэжнай ракі Матлавы, там, дзе за Зялёнымі Варотамі канчаецца найпрыгажэйшая вуліца Гданьска — Длугі Тарг. Калісьці, вельмі даўно, сустракаліся тут майстры, што вязалі панчохі, і адгэтуль тая дзіўная назва.

Набліжалася 16-ая гадзіна. Я чамусьці хваляваўся, адчуваў сябе, як герой змоўніцкага фільма, якога лёс залежыць ад сустрэчы, што вось-вось распачнецца. Дапіваў ужо другі кубачак кавы... і тады ў дзвярах паявіўся рослы, плячысты, прыблізна 50-гадовы мужчына ў форме афіцэра ваенна-марскога флоту. Акінуў позіркам прысутных і рашуча накіраваўся да мяне.

— Гнеўшэў, — сказаў ён, моцна паціснуўшы мне руку. — Гэта вы хацелі сустрэцца са мною? Чаму?

— Вы ж наш зямляк, родам з Белавежы...

— Так, — чамусьці уздыхнуў ён і ўжо цішэй дадаў: — Эх, Белавежа... родная старонка... Нават у снах я бачу яе. Дзе ўжо не даводзілася мне бываць, а вось думкамі я заўсёды вяртаўся ў Белавежу. Бываю я там амаль кожны год, а часам і часцей. У мяне ў Белавежы засталіся старэнькія бацькі.

— Пры вашым прозвішчы высокія навуковыя званні. Як вы іх здабывалі?

Георгій Гнеўшэў не адразу адказаў мне. Ён напіўся чаю і над нечым задумаўся.

— Я толькі скарыстаў з тых магчымасцей, якія для беднай вясковай моладзі стварыла народная ўлада. Якраз летам 1939 года паспеў закончыць пачатковую школу, а пры савецкай уладзе ў гадах 1939-1941 два гады вучыўся ў сярэдняй школе. Так што, калі распачалася гітлераўская акупацыя, за мною ўжо была няпоўная сярэдняя адукацыя і невялікі вопыт грамадскай дзейнасці. Ад 1941 года быў я членам Камсамола. Членскі білет перахоўваю яшчэ да сённяшняга дня. У гэтую баявую арганізацыю запісалася нас тады каля 15 юнакоў. Я трымаў сувязь з партызанскім атрадам Петракова. Сачыў за немцамі, паведамляў аб іх паводзінах і так далей... Шчасліва ўдалося пазбегнуць арышту, ніхто мяне не выдаў... А зараз жа пасля вызвалення Белавежы **Павел Шахалевіч** наладзіў у нас пачатковую школу і мяне папрасіў у настаўнікі. Мне, тады 18-гадоваму юнаку, здавалася, што я дасягнуў вышыню шчасця. Вучыў дзяцей, людзі адносіліся да мяне з пашанай, называлі „панам“.

Георгій Гнеўшэў не спыніўся аднак на дасягнутым. У 1947 годзе ў Гайнаўскім фізіка-матэматычным ліцэі прыступіў

**(Працяг на стар. 5)**

 

**КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК**

# Анцуты

Гэтае сяло няцяжка знайсці на карце: яно ляжыць у 4-5 кіламетрах на паўночны захад ад мястэчка Нарвы ў Гайнаўскім павеце, на правым беразе ракі Нарвы, злева ад шашы Нарва-Заблудаў. Тут каля 25 гаспадарак і 100 жыхароў.

Мясцовыя мікратапанімічныя назвы лугоў: **Багно, Пастэўнік, Загароды, За Ракою**; палеткаў: **Ступнеўшчына, Брадкі, Груд, Рагозіна, Пагнойна, Пяць Загонаў, Уваліска, За Лугам, Камяніска.** На рацэ Нарве плыткія месцы: **Грэблянка** і **Лейзарыха;** вірыстая тонь — **Пад Садам.**

Жывуць тут **Галашэўскія, Дубовічы, Драўноўскія, Катовічы, Карзуновічы, Яраслаўскія.**

**Анцуты** — гэта адна са старэйшых **баярскіх** вёсак на Падляшшы. *„Вялікія князі літоўскія,* — піша др Е. Вісневскі, — *а перш за ўсё Вітаўт (1350 — 1430), умацоўваючы сваё панаванне, абапіраліся на старыя рускія гарады. У сувязі з гэтым засновалі некаторую колькасць паселішчаў літоўскіх і рускіх* (г. зн. беларускіх — М.Г.) *баяраў дзеля замкавай і прыдворнай службы. Такім чынам паўсталі (...) над Нарвай Анцуты (...). Гэтыя баяры з бегам часу спольшчыліся і сталі дробнай польскай шляхтай, як Грынявецкія, (...) Анцуты (...), якая часткова ўтварала маленькія польскія астраўкі сярод рускага насельніцтва*“[1]). І далёкае рэха гэтага факту знайшло адбітак у Анцутах. Побач з вёскай некалі знаходзіўся тут **фальварак** Грынявіцкіх, а ў сямейнай традыцыі шматлікага тутэйшага роду Галашэўскіх захавалася легенда, што іх продкі былі **шляхцічамі.**

Але зусім не шляхецкае **было жыццё** ў колішніх Анцутах. Васьмідзесяцішасцігадовая **Марыя Дубоўская** прыгадвае, што цяжка тут было пражыць з загону. Людзі зімою займаліся **вывазкай** дрэва з лесу, а ўсю вясну і восень, калі на Нарве стаяла высокая вада, гналі **арэльку.** Вязалі бярвенні ў **пасы** недзе каля Нараўкі і спускалі па рацэ аж у Тыкоцін. Шмат хто ў вёсцы **рыбачыў,** але на сялянскі стол рыба трапляла надта рэдка, хіба розная дробязь і то толькі на **каляды** ды ў **пасты.** Усё, што лепшае, прадавалі нараўскім **яўрэям-гандлярам.** Ля вёскі на рацэ знаходзіўся **перавоз** і перавознікамі на ім былі Катовічы і Галашэўскія. Яшчэ пры цары людзі тут не ведалі іншага святла, як толькі **лучыну.** Для гэтага кожны гаспадар меў спецыяльнае прыспасабленне, званае **дзедам.** Быў гэта невысокі слупок на ножках знізу і ў верхняй частцы з разрэзамі, у якія ўтыкалі палаючую лучыну. **Дзеда** ставілі пасярод хаты, і вакол яго прымошчваліся **жанкі з верацёнамі** і **мужчыны з пляценнем пасталоў-лапцяў** ці іншым занятакам. Едкі дым снаваў па хаце, выядаў вочы, клаўся тоўстым слоем сажы на столі і сценах.



*Гэтая кладка — асноўны шлях зносін Анцутаў з гмінным мястэчкам Нарва.*

У час нямецкай акупацыі Анцуты апынуліся на шляху частых пераходаў савецкіх партызанаў з Ружанскай і Белавежскай пушчаў у ваколіцы Заблудава і Бельска. „Пастукаюць, бывала, ціхенька ў акно, папросяць упусціць у хату, — прыпамінае **Чэслаў Карзуновіч.** — Увойдуць поцемку, агню просяць не запальваць. Перапытаюць пра навіны ў вёсцы, перакусяць сёе-тое, гадзінку-дзве адпачнуць і таксама паціху пададуцца некуды ў цемень ночы. За зіму так тры-чатыры разы ў нас бывалі. І хоць гітлераўцы былі побач у Нарве і Трасцянцы, але наша вёска была дружная, і ніводная вестка пра начныя візіты партызанаў у нас не трапіла да фашыстаў“.

Цяпер у Анцутах людзі жывуць нядрэнна. Ураджаі збожжа і бульбы тут высокія, бо зямлю даглядаюць і ўгнойваюць належна. Перадавым гаспадаром з'яўляецца **Зянон Катовіч** — радны Ваяводскай рады нарадовай і грамадскі дзеяч у Гайнаўскім павеце. Моцным гаспадаром з'яўляецца таксама **Чэслаў Карзуновіч. С. Катовіч** мае птушкаферму, у якой у сезон адкормлівае па 12 тысяч курэй.

Шмат моладзі пасля заканчэння пачатковай школы паступае ў сярэднія школы Гайнаўкі і Беластока, а **Андрэй Асташэўскі** займаецца цяпер у адной з вышэйшых школ у Варшаве.

Анцуты электрыфікаваны і маюць добрую аўтобусную сувязь з Гайнаўкай і Беластокам. Але надта ж ім дакучае тое, што нараўскі ГС не паклапаціўся, каб адкрыць тут калі ўжо не краму, дык хоць бы **пункт дэталёвага продажу** самых неабходных у штодзённым жыцці тавараў. Яшчэ горш выглядае справа з **адвозам малака.** Кожны дзень тутэйшыя сяляне ў суме дастаўляюць яго па 600-700 літраў, а злеўні ў вёсцы няма. Спачатку быў вазаком Віктар Драўноўскі, але з-за малаватай заплаты за давоз адрокся ад гэтага занятку. І цяпер анцучане возяць малако па чарзе. Шмат клопату з гэтым і нязручна. Можа гайнаўская малачарня нешта прыдумае? Хоць у вёсцы і ёсць **тэлефон,** але карысць з яго невялікая, бо працуе ён толькі ад 8 гадзіны раніцы і да 3 пасля поўдня. Лічыцца, што і ноччу быццам бы ёсць сувязь, аднак колькі ні звані ў начную пару, ніхто не адазвецца, бо трасцянская пошта не дае злучэння. Бадай жа і гэтая справа павінна знайсці карыснае для Анцутаў вырашэнне калі не ў нараўскім гмінным упраўленні, дык у павятовым — у Гайнаўцы.



*Марыя Дубоўская — старажыл Анцутаў.*

Даволі глянуць на жоўтыя нараўскія пясчаныя **плёсы,** на пакручастую стужку **ракі** ды мігатлівую просінь шырокай надрэчнай **даліны,** каб пераканацца, які ж прыемны гэта куточак — **старадаўнія Анцуты!**

**Ігнат Снарскі**
Фота аўтара

[1]) Wiśniewski J., Zarys dziejów osadnictwa wiejskiego we wschodniej części województwa białostockiego do połowy XVII wieku, у „Навуковы зборнік“, ГП БГКТ, Беласток 1964, стар. 6-7.

**НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ**

# Маладыя футбалісты з Нараўкі



У Нараўцы Гайнаўскага павету здаўна наладзіліся добра спартыўныя справы. Ёсць тут дзве футбольныя каманды. У іх добрыя ўмовы для трэніровак на ўласным, добра абсталяваным і з раздзявальняй спартыўным стадыёне.

Сёння прадстаўляем малодшую футбольную каманду, якая выступае на спаборніцтвах у складзе: Андрэй Стульгіс (варатар), Анатоль Бароўскі, Веслаў Болтрык, Вальдэмар Салавей, Ян Дамброўскі, Яўген Лісоўскі, Анатоль Янюк, Міраслаў Навіцкі, Міхась Бароўскі, Анатоль Панкоўскі і Раман Шэўчак.

Сёлета нараўкаўская футбольная сыграла шэсць футбольных матчаў з футбалістамі з Плянты, Ляўкова, Міклашэва, Масева, і ўсе яны закончыліся яе перамогай.

Да заканчэння футбольнага сезону малодшая футбольная каманда сыграе два матчы з камандамі з Лукі (у Луцэ) і са Скупавам у сябе, на ўласнай спортпляцоўцы.

Варта адзначыць, што футбалісты з Нараўкі трэніруюцца пад кіраўніцтвам верных апекуноў Збігнева Грудзінскага і Уладзіміра Краснапольскага.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

**АДГАЛОСКІ**

## АБ БЕЛАРУСКІХ ЭЛЕМЕНТАХ У „КАНАПЕЛЬЦЫ“ Э. РЭДЛІНСКАГА.

Аповесць беластаччаніна **Эдварда Рэдлінскага** „Канапелька“ адметная з'ява ў літаратурным жыцці нашай краіны ў апошнія гады. Яна карыстаецца, асабліва на Беласточчыне, заслужанай папулярнасцю ў чытачоў, ёй прысвечаны шматлікія рэцэнзіі і артыкулы.

Вёска Тапляры, у якой жыве цэнтральны герой твора Казюк Барташэвіч, ляжыць у тым месцы ля ракі Нарвы, дзе, калі ўзлезці ў пагодны дзень на высокае дрэва, дык відаць касцёл у Суражы і царква ў Рыбалах — мясцінах, што кожны без цяжкасцей знойдзе на кожнай карце Беластоцкага ваяводства. Вельмі канкрэтна лакалізуецца аповесць таксама ў моўных і этнаграфічных адносінах. Даволі глянуць у зборнік *„Тэксты гаворак з Беласточчыны з моўным каментарыем“* пад рэдакцыяй А. Абрэмбскай-Яблонскай і ў працу этнографа С. Дваракоўскага *„Грамадская культура вясковага насельніцтва на Мазоўшы над Нарвай“* і кожнаму стане ясна, што аповесць Э. Рэдлінскага — гэта дакументальны твор, у якім верна адлюстравана гаворка, побыт і фальклор гэтых мясцовасцей. Пераканаўшыся ў тым, што сучасныя нам сяляне-тапляраўцы жывуць у тых ваколіцах, якія С. Дваракоўскі ва ўпамянутай працы называе Усходнім Мазоўшам і сцвярджае: *„Усходняе Мазоўша як пагранічная краіна ў большай ступені падалася ўплывам культуры суседніх усходніх народаў. У гістарычную эпоху неабходна ўзяць пад увагу рускія культурныя ўплывы, якія ўздоўж даліны Буга і верхняй Нарвы ўздзейнічалі на паўднёва-ўсходняе мазавецка-падляшскае пагранічча, а таксама пазнейшыя ад іх беларускія культурныя ўплывы, якія прыйшлі сюды з паўночнага ўсходу і ўсходу“,* дарэчы будзе аднатаваць тыя беларускія элементы, якія знаходзім у *„Канапельцы“.*

Ужо сама назва аповесці Э. Рэдлінскага — *„Канапелька“* бярэ свой радавод ад назвы вядомай беларускай народнай песні „канапелькі“, якую спявалі і дзе-ніздзе спяваюць сёння на Беларусі і ў нас, на Сакольшчыне, дзеці і моладзь у часе „валакання“, г.зн. збору ахвяраванняў у першы дзень Вялікадня. Гэтая песня — адна сярод многіх беларускіх, г.зв. велікодных песень.

Надта ж багата прадстаўлены беларускія элементы ў мове аповесці. Памеры артыкула не дазваляюць пералічыць іх усе, таму аднатуйма хоць некаторыя:

budzień, chwartuch, chwojka, dzie, duryło, drużyna (rodzina), gaz (nafta), gnoj (obornik), had, hurna, Jej Bohu, Jozik, kisły, kaczać, kucia, kulik (snopek słomy), klekać (deptać), Maśluk, nu, nogawicy, odpluszczyć, otawa, ołatki, pierun, popław, Pietrucha, Ryży, subota, tołkować, talerka, wiszczeć, wygon, zazula, zdziażyć. zorka, żywina, żonka gruba (w ciąży)

і мноства іншых, а нават цэлыя звароты:

Abodajby jego małanka spaliła, czorbiery i jej pieniędzy, czuć ja z ławy nie zleciał, zakładam duge w użwy i hołobli, zasuponiam, kleszczy, ledwo uspiejesz podbierać

і шэраг іншых, не кажучы ўжо аб марфалагічных і сінтаксічных беларусізмах.

Шмат беларускіх элементаў ёсць у абрадавасці тапляраўцаў, напрыклад: каляндная куцця, навагоднія фіглярствы, галашэнні па памёршым, сватанні Казюка і ў іншых.

Аб пранікненні ў Тапляры беларускага фальклору кажа сам Казюк наступнае:

Reczeńke śpiewajo, pieśń te kiedyś Dunaj od orelow przywioz, jak tratwy ganiał Narwio.

І ён, несумненна, выступае ў іх веры ў спор у полі і хляве, а таксама ў долю ў доме, у вяртанне нябожчыка і адзіны спосаб на яго — асінавы кол, легендзе пра тое, чаму людзі не ведаюць аб часе свае смерці, аб людзях, замененых у дрэвы ці жывёл і інш.

Словам, у *„Канапельцы“* Э. Рэдлінскі скарыстаў з моўнага, бытавога і фальклорнага багацця вясковага насельніцтва Усходняга Мазоўша, вельмі карпатліва і ўдумліва ўключыў яго ў свой твор, не адкінуўшы і беларускіх элементаў, якія знаходзяцца ў гэтым рэгіёне. Усё гэта ўплыло на тое, што пад таленавітым яго пяром паўстала жывая і красачная аповесць.

**Мікалай Гайдук**

Пачатак на стар. 1

# СЭРЦА ПОЛЬСКАЙ НАФТАХІМІІ




дае, калі яны знаходзяцца на плошчы ў некалькі соцен кіламетраў.

Вяртаемся ў залу, поўныя ўражанняў. Праз момант глядзім фільм аб гісторыі завода. Перад маімі вачыма вобразы старэнькай мазавецкай вёскі, на месцы якой будзе стаяць сённяшні камбінат, перасяленне жыхароў і звязаныя з гэтым слёзы жанчын, працуючыя ў балоце бульдозеры, людзі і камбінат, які я толькі што бачыў. А колькі з гэтых сялян зараз жыве ў плоцкіх блоках і цешыцца пашанай на нафтазаводзе! Напэўна многа, хаця палічыць нялёгка, так як толькі ў прадукцыі працуе не лічыўшы асобнага прадпрыемства „Петрабудова", амаль 9 тыс. чалавек. Многія з іх — гэта передавікі сацыялістычнай працы.

На сустрэчы прадстаўнікі завода расказваюць пра камбінат, паясняюць, інфармуюць. Зараз камбінат перапрацоўвае 9,5 млн. тон нафты ў год, а вартасць гэтай прадукцыі — 19 мільярдаў зл. У будучай пяцігодцы прадукцыя камбіната будзе падвоена.

Агулам за гады 1963-1974 у плоцкай нафтахіміі перапрацавана амаль 50 млн. тон нафты, вартасць гэтай прадукцыі паводле цэн продажу — 87,5 мільярда зл., а накапленне — 36,7 мільярда зл., што абазначае, што плоцкі камбінат са значнай звышкай звярнуў нашай гаспадарцы капіталаўкладанні, уложаныя на яго пабудову.

У ходзе нафтаперапрацоўчых працэсаў атрымоўваюць з нафты шэраг высакаякасных прадуктаў, як: вадкі газ, бензін, дызельнае топліва, араматычныя злучэнні, горнае масла, асфальт, нафтавы кокс (да электрычных батарэек і т.п.) і інш. Адначасова нафтавы газ і частка бензінаў з'яўляюцца каштоўнай сыравінай для многіх нафтахімічных сінтэзаў. Да найбольш цікавых трэба аднесці вытворчасць фенолу і ацэтону, оксі этылена і глікаля, бутадзіена для вытворчасці сінтэтычнага каўчука, паліэтылена, паліпрапылена, якія з'яўляюцца каштоўнымі сінтэтычнымі матэрыяламі, што маюць вельмі шырокае прымяненне.

Пабудова і разбудова плоцкай нафтахіміі ад першых дзён з'яўляецца наяўным прыкладам дружбы і супрацоўніцтва паміж Польшчай і СССР. Савецкія праектанты нафтаапрацоўчай прамысловасці ў Баку былі кансультантамі генеральнага праекта будовы Мазавецкага нафтаперапрацоўчага завода. У Баку і Уфе, а таксама на іншых савецкіх нафтакамбінатах вучыліся польскія інжынеры. Агулам з розных форм вучобы і тэхнічных кансультацый у СССР скарысталася каля 250 інжынераў і тэхнікаў плоцкага камбіната. Адразу пасля пуску завода ў Плоцку працавалі дзве закупленыя ў СССР установкі, перапрацоўваючыя па 3 мільёны тон нафты (зараз будуецца трэцяя такая ўстаноўка), каталічны крэкінг, які прадукуе 750 тыс. тон бензіна ў год, каксоўня, прыстасаваная для прадукцыі 500 тыс. тон асфальту ў год, устаноўка для прадукцыі фенола і ацэтона.

Агулам вартасць закупленых і пастаўленых Савецкім Саюзам установак, апаратаў і прылад — больш 200 мільёнаў дэвізовых злотых. У маі г.г. перапрацавана ў Плоцку 50-мільённая тона нафты, пастаўляемай нафтаправодам „Дружба".

Усе гэтыя сучасныя, часта прататыповыя ўстаноўкі будаваліся пры творчым удзеле савецкіх экспертаў і спецыялістаў, якія ўдзельнічалі ў мантажы і пуску аб'ектаў. Агулам Плоцк супрацоўнічаў з 200 савецкімі спецыялістамі, якія па-брацку дзяліліся багатымі ведамі і вопытам з нашымі нафтавікамі.

У нашых умовах, з прычыны недахопу багатых пакладаў нафты, нафтаперагонная прамысловасць была слаба развіта, а нафтахімія ў свой час увогуле не існавала. Забеспячэнне Савецкім Саюзам паставак нафты мела асноўнае значэнне для рашэння аб будаўніцтве сучаснай нафтаперагоннай і нафтахімічнай прамысловасці ў нашай краіне.

**А. Карпюк**

(Працяг са стар. 2)

начала „рый-зямлю". Падыходжу да бар'ера судна і прыглядаюся да вады. Вада Іртыша мутная. Перавальваюцца ў ёй бурыя ілістыя плямы і смугі. Гэта вынік размытага грунту, узбударажанай зямлі. Калі аднак кінеш вокам далей, дык вада ракі прыгожа ззяе серабром ад падаючых на яе паверхню праменняў сонца.

Урэшце на беразе канчаецца лес і паяўляецца першая вёсачка. Усяго некалькі хат. І хаты, і гаспадарчыя будынкі крытыя дошкамі. Толькі на адной клуні відаць этэрніт.

На шырокім лузе пасецца каля 15 кароў, а пастух, звесіўшы з берага ногі, вудзіць рыбу. Іртыш тут зноў расшыраецца. Наша судна аддаляецца ад берага.

Насустрач нам усё часцей пачынаюць плысці буксіры і баржы. Валакуць усё: і драўніну, і цэмент, і трубы, і вялікія рэзервуары з надпісам „огнеопасно". Судны, якія плывуць нам насустрач, голасна сігналяць. Наша судна, аднак не адказвае, мабыць, не хоча бу-



*Высокі бераг Іртыша.*

# ПА ВЯЛІКАЙ ВАДЗЕ ІРТЫША

дзіць пасажыраў. Нягледзячы на тое, што Іртыш — гэта магутная рака, аднак, яго глыбіня, мабыць, не ўсюды аднолькавая. Наша судна, так як і іншыя, плыве раз да левага берагу, раз да правага, або выбірае дарогу сярэдзінай ракі. На берагах даволі часта паяўляюцца вялікія бліскучыя табліцы, гэта яны акрэсліваюць курс суднаў. Берагі Іртыша найчасцей нізкія, аднак здараюцца і высокія. Калі падплываем да іх, бачу чорныя дзіркі, з якіх вылятаюць птушкі, падобныя да ластавак. Гэтыя птушкі ў нас над Нарвай называюцца пецурамі. Выграбаюць яны ў берагах глыбокія дзіркі і там выводзяць малых. Зараз над Нарвай гэтых птушак няма, а тут над Іртышом іх поўна.

Іду на пярэднюю частку судна і бачу там на тонкім провадзе вераб'я. Аднекуль паяўляецца чалавек з абслугі і кажа:

— Верабей паплыве з намі, бо не можа даляцець да берага.

Ацэньваю адлегласць да берага на 300-400 метраў і не магу паверыць, каб птушка не магла іх праляцець. Верабей аднак сядзіць і не думае ляцець. Калі аднак судна набліжаецца да берага на 100 м, узлятае з судна і кіруецца ў бок берага.

Каля восьмай гадзіны ўзнімаюся па лесвіцы на верхнюю палубу і там бачу, хто нас вязе. Каля стырна стаіць хлопец гадоў 17. Лёс наш у няпэўных руках, думаю. Гляджу ўважна і бачу за хлопцам у кутку кабіны прыблізна саракагадовага капітана. Супакойваюся і іду ў каюту. Трэба мыцца, галіцца і на снеданне.

Пасля снедання ўсе пісьменнікі выходзяць на палубу. Многія распрануліся. Загараем. Гарачая Сібір. А 13[00] слухаем лекцыю аб сібірскай нафце. Пасля абед і зноў на палубе. Плывем і плывем, а на берагах тайга і тайга. Толькі рэдка-рэдка паявіцца вёсачка і зноў бяскрайні прастор Іртыша і лесу.

**Алесь Барскі**

# ЗАЛАТЫЯ РУКІ

Сучаснага чалавека цяжка чым-небудзь здзівіць. Але ўбачыўшы яе вышыўку — абрусы, сурвэткі, ручнікі, макаткі, мужчынскія кашулі, жаночыя шарсцяныя сукенкі і белыя блузкі, нельга застацца абыякавым. Усіх захопіць свет фарбаў і ўзораў, якія разлілі вясёлкай на палатне рукі Рэгіны Запольскай з Міхалова. Тут можна сустрэць рэчы і з геаметрычным, і з раслінным арнаментам. Часта ў адным узоры ўжываюцца абодва элементы.



Працуе яна натхнёна, пераглядае, што прыйшло ў спадчыне ад бацькоў, уводзіць новыя колеры, элементы, шукае новыя спалучэнні. Усё выконвае з вялікай любоўю. І вышыўку, і цудоўныя зіхатлівыя карункі. Тыя апошнія — быццам скапіраваныя ад спрадвечнага карункавага майстра — павука. Такія ж адмысловыя, далікатныя, непаўторныя, як тканіна нацягнутага, абсыпанага расою павуціння.

— Як нялёгка спачатку давалася мне, маладой тады яшчэ дзяўчыне, гэтае рукадзелле, — успамінае пані Рэгіна. — Сляпіла вочы ля газоўкі па начах. Сны і тыя былі неспакойныя. Сніліся мне ўсё новыя ўзоры, а ўдзень гэтак не выходзіла, так складна, так казачна, як у цудоўным сне.

Рэгіна Запольская паказвае мяккія, цёплыя і рознаколерныя падушкі і коўдры з карункамі на навалачках. Некаторыя ўзоры карунак захаваліся ў яе нават некалькі дзесяткаў гадоў.

Вышыўка і карункавыя ўзоры Рэгіны Запольскай вядомы шырэйшаму кругу жыхароў Міхалова і ваколіц, паколькі экспанаваліся яны ў мясцовым гмінным цэнтры культуры. Яе работы карысталіся вялікім зацікаўленнем і былі ўзнагароджаны за вялікае майстэрства. У лістападзе гэтага года можна будзе ўбачыць іх на выстаўцы народнага мастацтва ў будынку Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку. Умельства „залатых" рук Рэгіны Запольскай, несумненна, зверне ўвагу кожнага, а ўжо напэўна кожнай маладой жанчыны...

**Я. Цялушэцкі**
Фота аўтара

**Беларуская літаратура** — Аляксандар Баршчэўскі

## Нашаніўская пара

### МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА XXV

**Феміністычная тэматыка і лірыка кахання.** Папярэднім разам мы правялі агульны агляд вершаў, прысвечаных жанчыне, і вершаў аб каханні. Усе вершы Багдановіча аб жанчыне і каханні можна раздзяліць на некалькі груп. У першую групу ўвойдуць вершы аб каханні наогул, у другую — вершы аб сваім уласным каханні, у трэцюю — вершы аб замужняй жанчыне і аб шчаслівым мацярынстве, у чацвертую — вершы аб смерці маткі пры нараджэнні дзіцяці. Можа выклікаць закіды тэзіс аб падзеле вершаў, прысвечаных, калі можна так сказаць, чужому і свайму каханню ў творчасці Багдановіча. Сапраўды, цяжка сказаць, які верш у любога паэта, а тым самым і ў Багдановіча, вырас на глебе назіранняў, а які на аснове ўласнага пачуцця. Вядома, аднак, што Багдановіч быў закаханы ў Аню, і прынамсі тыя вершы, у якіх выступае гэтае імя, можам смела залічыць да твораў, вырасшых на грунце ўласнага пачуцця, уласнага кахання. Так ці інакш, падзел, які мы ўвялі, гэта падзел умоўны.

**Вершы аб каханні.** У гэтую групу трэба залічыць наступныя творы: „Раманс", „Ізноў пабачыў я сялібы", „Хоць мы былі адны ў той час", „Першая любоў", „Маркотна я чакаю", „Пад ценню цёмных ліп...", „Учора толькі шчасце глянула нясмела", „Успамін", „Купідон", „Муар двума колерамі", „Санет", „Калі паласу агнявую", „Маладыя гады", „Ужо пара мне дадому збірацца", „Набягае яно", „Сантыментальная бяседа" і іншыя.

Зразумела, што такая вялікая колькасць вершаў не можа быць утрымана ў адной танацыі, у адным настроі. І таму ў гэтых творах сустракаем і розныя тэмы, і розную эмацыянальную афарбоўку, і розную стылістыку. Тым больш, што гэтыя вершы былі напісаны ў розныя перыяды жыцця паэта.

У вершах, прысвечаных ілюстрацыі радасных аспектаў кахання, паказана сарамлівасць закаханага, яго наіўная вера ў шчасце, стыхійнасць, схільнасць расшыраць пачуццё кахання на прыроду і на ўсіх людзей.

Як жа трапна паказаны першыя парасткі пачуцця ў вершы „Хоць мы былі адны ў той час":

„Хоць мы былі адны ў той час, —
Я і зірнуць не смеў на Вас,
І тое, што тады зрабілася,
Знянацку вышла, але ўраз.
Не помню, як — я ручку ўзяў,
Не помню, як — пацалаваў".

У вершах „Першая любоў", „Пад ценню цёмных ліп", „Учора шчасце толькі глянула нясмела" паэт займаецца ўнутраным светам закаханага юнака, паказвае, як закаханаму чалавеку ўсё на свеце здаецца прыгожым, як глядзіць ён на свет „вачыма дзіцяці", як узбагачаецца душа закаханага. Напрыклад, у вершы „Першая любоў" выступае юнак, які вяртаецца са спаткання або ідзе на спатканне з дзяўчынай. Хлапец нясе ў сэрцы вясну, нягледзячы на тое, што на свеце восень. Падобнай тэме прысвечаны таксама верш „Пад ценню цёмных ліп". Аўтар паказвае, як закаханаму чалавеку абыякавым здаецца бруд на вуліцы і тратуары, бо сэрца яго занята вышэйшай матэрыяй — каханнем:

„Пад ценню цёмных ліп, схаваўшы
нашу пару,
Мы йдзем праплёванай дарожкай
па бульбару
Акуркі, шалуха, паперы пад нагамі, —
Ды ці прыкмечу іх, калі іду я
з Вамі?"

І здаецца закаханаму, што ва ўсіх сустрэтых людзей зіяюць вочы і, як рубіны, гараць у цемры папяросы і ўсё-ўсё вокал прыгожае і цудоўнае.

Верш „Санет" мае іншы настрой. З аднаго боку, праяўляецца ў ім захапленне прыгажосцю дзяўчыны, а, з другога боку, сумненні, ці захапляючае бяздонне кахання не хавае ў сабе згубы.

Два вершы Багдановіча „Маладыя гады" і „Набягае яно" можна аб'яднаць у адзін твор. У гэтых вершах і аднолькавая стылістыка, і аднолькавая эмацыянальнасць, і аднолькавая тэматыка. І адзін і другі верш — гэта гімны ў чэсць маладосці, стыхійнасці і кахання. Зробім тут тое, чаго рабіць нельга. Спалучым у адну цэласць першыя строфы з вершаў „Маладыя гады" і „Набягае яно".

„Маладыя гады,
Маладыя жадання!
Ні жуды, ні нуды
Толькі шчасце кахання
Набягае яно
Вечарамі, начамі,
Адчыняе акно
І шамрэе кустамі".

Скарысталі мы гэты недазволены прыём з той мэтай, каб паказаць, як часам у паэта вершаваная тэхніка і матывы, запачаткаваныя ў адным вершы, знаходзяць прадаўжэнне ў іншым.

## Куток практычных ведаў

### ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

РЫБНЫЯ СТРАВЫ

**ЗАЛІЎНАЯ РЫБА**

На 1 кг рыбы (карп, шчупак, лешч) трэба ўзяць 2 цыбуліны, 1 пятрушку, кавалак сельдэрэя, моркву, соль, перац, цукар, 20 г жэлаціна.

Рыбу пачысціць, выняць з яе ўнутранасці, абрэзаць плаўнікі, з галавы выняць вочы і жабры. Пачысціўшы, рыбу парэзаць у званы, памыць, пасаліць. Гародніну ababраць, нарэзаць кружочкамі, палажыць у каструльку. На агародніну класці кавалкі рыбы. Заліць такой колькасцю вады, каб рыба была амаль прыкрыта вадой, закіпяціць, накрыць і на малым агні варыць мінут 30-40. Жэлацін намачыць, а калі набракне, дадаць да рыбы, закіпяціць. Заправіць рыбу па смаку цукрам і перцам і застудзіць. Перад падачай крыху падагрэць дно каструлькі, выпажыць рыбу на круглую талерку, упрыгожыць яе.

Асобна падаць хрэн.

**СЕЛЯДЦЫ ЗАГОРНУТЫЯ**

На 5 селядцоў трэба ўзяць дзве цыбуліны, 1 чайную лыжачку муштарды, 1 чайную лыжачку таматнага канцэнтрата, 2-3 лыжкі воцату, 2-3 лыжкі алею, цукар, перац.

Селядцы памыць, перарэзаць уздоўж, выняць унутранасці і намачыць у вадзе на 24 гадзіны. З вымачаных селядцоў зняць скурку, падзяліць іх на філе, дакладна выняць костачкі. Кожнае філе намазаць муштардай, змешанай з таматным канцэнтратам, пасыпаць дробна нарэзанай цыбуляй, загарнуць і сашпіліць палачкай. Малако з селядца расцерці з лыжачкай цукру, дадаць воцат і алей. Гэтым соусам заліць загорнутыя селядцы на 2 дні перад падачай. Трымаць іх у халодным месцы.

**СЕЛЯДЦЫ Ў ЦЕСЦЕ**

На 5 селядцоў трэба ўзяць 1 яечка, 1 лыжку алею, 2 лыжкі мукі, 1 лыжку таматнага канцэнтрата, алей.

Селядцы пачысціць і вымыць, як вышэй, аддзяліць філе. Філе палажыць на талерку, заліць малаком на 2-3 гадзіны. Муку размяшаць з яечкам і лыжкай алею, дадаць 1-2 лыжкі вады. Цеста павінна мець гушчыню кіслай смятаны. Палавінкі селядцоў намазваць у сярэдзіне таматным канцэнтратам. Злажыць па дзве палавінкі разам, канцы сашчапіць палачкамі. Мачаць у цеста, класці на разагрэты тлушч і смажыць.

Падаваць з салатам з капусты.

**Гаспадыня**

## § Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Д. заараў дзялянку зямлі, з якой карыстаўся Г. Ён спаслаўся на тое, што атрымаў гэту дзялянку ў спадчыне. Г. падаў на яго ў суд, і суд загадаў Д. вярнуць дзялянку папярэдняму карыстальніку Г. Пасля гэтага Г. у іншай справе атрымаў рашэнне суда, якое загадвала Д. заплаціць 2.400 зл. кампенсаты за тое, што Г. у летнім сезоне не мог карыстацца з дзялянкі, і накіраваў рашэнне судоваму выканаўцы. Тады Д. падаў у суд, які сцвердзіў, што ўласнікам дзялянкі з'яўляецца ён. Рашэнне суда абжалаваў Г. Ці можа Д. патрабаваць спынення дзейнасці судовага выканаўцы да часу, калі рашэнне суда будзе правамоцным?

АДКАЗ: Пакуль узнік паміж Д. і Г. спор, карыстальнікам дзялянкі быў Г. Такім чынам Д. не меў права самавольна парушаць яго карыстання. Ён павінен быў даказаць свае правы, а калі пасля гэтага Г. не згаджаўся б аддаць яму дзялянку, падаць у суд, які загадаў бы прымусовае высяленне Г. Паколькі Д. паступіў бяспраўна, ён абавязаны кампенсаваць шкоду, якую ён прычыніў Г. Гэты абавязак незалежны ад таго, каму канчаткова суд прызнае ўласнасць дзялянкі. Судовы выканаўца не мае права спыняць выкананне рашэння, пакуль іншым рашэннем не будзе яно прызнана за не падлягаючае выкананню.






**Дарагое „Сэрцайка“!**

Жыву я на вёсцы. Працую разам з бацькамі на гаспадарцы. Бацькі мае ўжо старыя і я найбольш мушу спраўляцца з гаспадарскімі справамі. Я закончыла кравецкую школу, але няма калі мне шыццём займацца. Была я нядаўна ў сваячніцы і там пазнаёмілася з Андрушам. Яму 32 гады. Высокі, прыстойны хлопец. Спадабаўся мне з першага позірку. Прыязджае часта да мяне і гаворыць, каб пажаніцца і жыць у горадзе. Ён там працуе на адказнай пасадзе і мае кватэру. Я ахвотна згадзілася б жыць у горадзе, я ж і прафесію маю, але шкада мне старых бацькоў. Як жа яны без мяне гаспадарыць будуць? Парай, „Сэрцайка“, як паступіць, каб і мне было добра, і бацькоў не скрыўдзіць?

**Кася з Бельшчыны**

**Кася!** Вельмі добра, што пра бацькоў так клапоцішся. Ну, але вядома, ім будзе прыемна, калі ты і свае справы адпаведна ўладзіш. Ад гэтага ж залежыць твая будучыня. На гаспадарцы табе вельмі цяжка, бо як кажуць, „адзін у полі не ваяка“, а дапамога з боку бацькоў будзе штораз меншая. Мог бы Андруша прыйсці да цябе на гаспадарку, але што ж, напэўна, шмат ён вучыўся і працаваў, каб здабыць сваю, як пішаш, адказную пасаду. У гэткай сітуацыі, бадай, было б найлепш, каб бацькі аддалі гаспадарку дзяржаве за пенсію. Так цяпер многія робяць, калі няма ўжо сілы да працы. А ты зможаш пайсці жыць з Андрушам у горад. Твая прафесія там вельмі прыдатная. Краўчыхі ў горадзе нарасхват.

**„Сэрцайка“**

## ВЫПІСАЦЬ „НІВУ“

можна: у пісьманосца, ля паштовага акенца або уплочваючы грошы чэкам на рахунак
RSW „Prasa — Książka — Ruch”, I Oddział Rejonowy w Białymstoku, ul. Kopernika 93, nr konta 102-6-161 NBP I Oddział Białystok.

Цана падпіскі: на квартал — **7.20** зл; на паўгода — **14,40** зл; на год — **28,80** зл.

Можна таксама „Ніву“ выпісаць знаёмым за мяжу. Падпіску на заграніцу прымае:
RSW „Prasa — Książka — Ruch”, Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych Warszawa, Wronia 23, konto PKO nr 1-6-100024.

Цана падпіскі для заграніцы вышэйшая за краёвую на 40 працэнтаў. Гадавая — **40,40** зл.




Клімчанка маўчаў.

— Ну, што зашчаміўся? — адарваўшы позірк ад пазногцяў, упершыню папракнуў Чарноў. — І што так глядзіш на мяне? Ачухацца яшчэ не можаш?

— Што вам ад мяне трэба? — мераючы яго недаверлівым поглядам, запытаў лейтэнант. Чарноў адкінуўся на сваім нябачным за сталом сядзенні.

— Во гэта па-дзелавому, — прыкметна, але неяк не зусім натуральна ўзрадаваўся ён, выйшаў з-за стала і прыткнуўся на яго ражку. Выцягнуўшы ўперад нагу ў начышчаным зграбным боце, паварушыў наском, быццам збіраючыся паведаміць галоўнае.

— Вельмі нават няшмат, — адказаў чалавек, які назваўся Чарновым; цяпер ён нібы ўжо страціў цікавасць да свае асобы і глядзеў толькі на Клімчанку. — Я думаю, табе не менш за нас шкада сваіх салдатаў, якія засталіся там. Праз дзень, другі пагоняць у наступленне і — усім капут. А навошта? Ці не даволі Расіі ліць кроў? — запытаў ён. Здавалася, ён шчыра перажываў тое, што гаварыў, і Клімчанка з некаторай новай цікаўнасцю зірнуў на яго.

— Навошта гінуць? Недарэчныя ахвяры! Колькі іх прынесла Расія! Адным словам, вось што... Трэба выступіць праз дынамік і пагутарыць са сваімі. Не, не палохайся: выдумляць нічога не трэба. Мы дамо тэкст.

„Дык вось яно што! Цяпер усё ясна!“ У Клімчанкі адразу спала напружанне, якое дагэтуль усё ўзмацнялася, ён упершыню варухнуўся на зэдліку і ўздыхнуў. Чарноў злез са стала і падыйшоў бліжэй.

— Дык як? Рызыкаваць не прыйдзецца. Дынамік на перадавой, мы ў траншэі. Некалькі слоў да канкрэтных людзей. Гэта падзейнічае. Гэта заўсёды дзейнічае.

Клімчанка зразумеў усё, бо гэта не было для яго новым. Некалі ў дажджлівую беспрасветную ноч пад Вязьмай ён ужо чуў, як брахаў праз дынамік нейкі нягоднік, што, мабыць, яшчэ з месяц назад быў чырвонаармейцам і з нашага кацялка сёрбаў суп, аднак жа агітаваў пераходзіць на бок вялікай арміі фюрэра.

— Ах, вось вы пра што! — сказаў ён, глянуўшы ў загадкава спакойныя вочы Чарнова. — Нічога не выйдзе. Шукайце другога.

Абапёршыся локцямі аб калені, ён нізка сагнуўся на зэдліку і апусціў галаў, гатовы да ўсяго. Чарноў змоўк, зайшоў на той бок стала і сеў, загадкава пазіраючы на яго. У грубцы дагаралі дровы, гарачыня паменшала, і з дзвярэй пацягнула холадам, спіна Клімчанкі адразу адчула гэта. Лейтэнант зябка перасмыкнуў плячмі.

— Так, так. Не хочаш, значыць. Ну што ж, — напэўна, штосьці абдумваючы і расклаўшы на абрусе рукі, сказаў Чарноў. У двары, чутно было, перагаворваліся салдаты, бразгалі дзверцы ў кабінах, недзе ахнулі два далёкія выбухі. Агеньчык у плошцы ціха, задуменна мігаў. Раптам ён рэзка хіснуўся, ледзьве не згасшы зусім, — ззаду стукнулі дзверы. Чарноў зараз жа ўсхапіўся са свайго месца.

У зямлянку з'явіўся той, доўгі, што прывёў яго сюды. Клімчанка, не паварочваючыся, пазнаў яго па скураных брыджах — цяпер ён быў без шыняля — і марудліва падняў галаву. Чарноў нешта буркнуў, выскокваючы з-за стала, але Клімчанка не зразумеў ці недачуў; афіцэр перакінуўся некалькімі словамі з падначаленым і ўрэшце абыякавым позіркам бясстрасных вачэй праціў палоннага. Не зводзячы з Клімчанкі гэтага погляду, ён дастаў з кішэні партабак і шчоўкнуў ім перад самым ягоным тварам. Лейтэнанту вельмі хацелася закурыць, але гэтая бесцырымоннасць абражала, і ён адвярнуўся. Немец тады нешта коратка і строга заўважыў Чарнову, той у адну секунду падскочыў да Клімчанкі, і лейтэнант, перш чым зразумеў, што адбылося, паляцеў да сцяны. У левым вуху пры гэтым, здаецца, штось лопнула, і ў галаве загуў тугі хваравіты гул.

Калі ён, не спяшаючыся і чакаючы новых udараў, падняўся ля сцяны з падлогі, Чарноў адпусціў пальцы з кулака, якім толькі што садануў палоннага, і нягучна, скрозь зубы, вымавіў:

— Адмаўляцца ў немцаў не прынята.

Клімчанка ў думках вылаяўся і падумаў: „Вось дзе тваё нутро адкрываецца, гадзіна паўзучая“. З хвіліну ён стаяў ля сцяны пад позіркам дзвюх пар розных вачэй. Было крыўдна і балюча, аднак не хацелася верыць у тое, што тут адбылося: так звычайна глядзелі на яго тыя вочы. Пасля высокі, усё ў тых жа чорных пальчатках, марудна падкяўшы цыгарэту, мезінцам ашчадна строс з яе попел. Ён таксама не меў ніякіх адзнак злосці і выглядаў звычайным разважным чалавекам, такім, што можна было падумаць, нібы яны абодва жартуюць.

— Ты будзет выконвайт нямецкі бефёл?* — без пагрозы, звычайна запытаў немец.

— Я не здраднік!

— О! — толькі і сказаў немец-афіцэр і амаль неўпрыкмет адным вокам пад-

# ТРЫБУНА чытачоў




### ЦЯЖАР У СЭРЦЫ

Хадзі
сюды,
хадзі.
Бліжэй,
хутчэй
падыйдзі.
Скажы мне
слова
людское,
Рэальнае
слова
простое.
Каб магла
я ўрэшце
паняць,
Што другім
магу
даць,
Чаго ад
мяне
чакаюць,
Чаго
найбольш
жадаюць.
Хадзі
сюды
бліжэй,
Падай
далоні
хутчэй
I аб'ясні
усё... усё...
мне,
Так, як бы
гаварыў
сам сабе.
Я ж так
многа
не хачу —
Я толькі
паняць
не магу,
Што гэта жыццё?

**Валя Аніщчук**
**Гайнаўскі беларускі ліцэй**

### СІРАТА

Сонца свеціць ярка, зямлю агравае,
Толькі адвячоркам праменні хавае.
Зямля рада сонцу, сонцу рады дзеці,
Крылатыя хочуць да яго ляцеці.

Калі сонца згасла й вецер перастаў,
Над магілай маткі сірата стаяў.
Галаву спусціўшы, зубы прышчаміў,
Ледзь мацнейшы вецер з ног бы яго збіў.

Хлопец прыпаў да зямлі, магілу абняў,
Прасіў, маліў Бога, каб душу прыняў,
Палажыў галоўку, смерць вочы закрыла,
Прыняла і сына матчына магіла.

**Аня Дзенісюк,**
Плёскі

міргнуў Чарнову. Той падышоў і зноў, не размахваючыся, па-баксёрску, коратка, але дужа і балюча ўдарыў Клімчанку ў сківіцу. Лейтэнант зноў адляцеў да сцяны — падаючы, зачапіў печку, у трубах зашарахцеў, пасыпаўшыся з даху, пясок. Немец працадзіў „гут“ і, сцяўшы тонкімі вуснамі канец цыгарэты, выйшаў з зямлянкі.

Як толькі дзверы за афіцэрам зачыніліся, Чарноў спакойна, нібы нічога кепскага між імі і не сталася, падышоў да Клімчанкі.

— Ну як?

— Сволач ты, а не зямляк! У душу табе кол! — сказаў лейтэнант, выплёўваючы на падлогу крывавую сліну. Чарноў амаль без увагі на яго словы хітравата ўсміхнуўся.

— Не сярдуй! Глупства. Гэта так, для парадку. Інакш, сам разумееш, — начальства.

Ён падхапіў Клімчанку пад рукі, рыўком паставіў на ногі, ботам падсунуў зэдлік — сядай! Лейтэнант на момант разгубіўся ад такога павароту ў іхніх адносінах, але сеў і скоса пазіраў на твар свайго ката. Шэрыя рухавыя вочы таго раз за разам засцярожліва лыпалі на дзверы зямлянкі.

— А ваабшчэ ты прабач. Сам разумееш. Даводзіцца. Інакш скамандуе і ўсё: канец. Дык часам лепш ударыць. Праўда ж?

**(Працяг будзе.)**

---

*) Загад (ням.)

## За кубак старшыні

У Гайнаўскім павеце ідзе спаборніцтва паміж поштамі і паштовымі працаўнікамі за пераходны кубак старшыні гайнаўскага аддзела БГКТ.

У 1973 г. гэты кубак заваявалі работнікі пошты ў Старым Корніне. Начальнік і пісьманосцы старакорнінскай пошты атрымалі тады таксама ўзнагароды. Сёлета ў гэтым конкурсе прымаюць удзел усе пошты нашага павету. Хто будзе пераможцам — пакуль што цяжка гадаць.

Усе ўдзельнікі конкурсу ведаюць, што каб атрымаць гэты прыгожы кубак, трэба на тэрыторыі сваёй пошты здабыць як найбольш падпісчыкаў „Нівы“ (адпаведна да колькасці насельніцтва, якую абслугоўвае даная пошта).

Пра пераможцаў у конкурсе напішам.

**Віктар Бура**

## План вёскі

У Дубічах Царкоўных ідуць работы па апрацоўцы плана развіцця вёскі. Вядуць іх інжынеры Войцех Журоўскі — кіраўнік групы, Эдуард Дзюба, Ян Залеўскі. Як вядома, Дубічы з'яўляюцца адной з большых вёсак. Тут ёсць шмат устаноў. I цяпер, як ніколі, вёска развіваецца. У недалёкай будучыні будуць паложаны тут новыя вуліцы гарадскога тыпу. Найбольш месца ў плане займае водаправод.

Работы праводзіць акруговае геадэзійна-картаграфічнае прадпрыемства з Беластока.

**М. Панфілюк**

## Сталі гадаваць свіней

Сельскагаспадарчы гурток у Піражках (Сакольскі павет) раней накіраваны быў на вырошчванне збожжа: апрацоўваў звыш 300 гектараў зямлі дзяржаўнага фонду. Цяпер гэту зямлю пераняў крынкаўскі ПГР, і піражкоўскі сельгасгурток пачаў мяняць сваю кваліфікацыю. Цяпер ён заняўся свінагадоўляй. Піражкоўцы пабудавалі вялікі хлеў і купілі 300 парасят. Гадуюцца яны добра. У будучыні гурткоўцы плануюць павялічыць гадоўлю да 400 штук свіней.

**Т.К.**

## Аўтобусны прыпынак у Ляшчынах

Вёска Ляшчыны належыць да Чыжоўскай гміны. Аўтобусны прыпынак знаходзіцца вельмі далёка ад гэтай вёскі і, што горшае, прыпынак не мае ніякага будыначка, дзе б можна было схавацца ад дажджу і снегу.

Прайшло лета, зноў восень. Мне вельмі часта даводзіцца вяртацца назад у вёску, бо аўтобус быў перапоўнены і ўвогуле ў Ляшчынах не затрымаўся. Людзі ў школу і на працу не паехалі.

Цяпер бывае і так, што аўтобус увогуле не ідзе, або спазняецца на гадзіну. А бывае так, што кандуктар бярэ грошы, а білетаў не дае. Вяртаючыся з Бельска, заўважаеш, што аўтобус на сваім галоўным прыпынку ў Бельску ўжо перапоўнены, людзям няма месца.

Хто ўвогуле вінаваты ва ўсёй гэтай справе? Хто ўрэшце зацікавіцца і дапаможа, каб дзеці кожны дзень маглі ехаць у школу? Хто ўрэшце падумае, каб пабудаваць на прыпынку ПКС у Ляшчынах будку?

**Прахожы**

## Сход ЗБоВіД у Шудзялаве

Адбыўся сход гміннага камітэта ЗБоВіД у Шудзялаве. Было выбрана новае праўленне. Старшынёй стаў Эдвард Чарэмха са Слойкі — былы падпаручнік-касцюшковец, прымаў удзел у бітве пад Леніна. Намеснікам старшыні выбралі Уладзіміра Хоміка — былога члена КПЗБ, узнагароджанага Крыжам Афіцэрскім Ордэна Адраджэння Польшчы. Сакратаром стаў Анатоль Матусевіч з Сукавіч — былы салдат-касцюшковец, удзельнік баёў пад Леніна і за Берлін.

У сувязі з 30-годдзем ПНР многія члены ЗБоВіД былі ўзнагароджаны.

**Т. К.**

## У гміне Нараў

Цяперашняя гміна Нараў ахоплівае таксама вёскі даўнейшых грамадскіх рад у Трасцянцы і Лясінцы.

Новае кіраўніцтва гміны многа ўвагі ўдзяляе дарогам. Стараецца, каб з найдалейшых вёсак быў добры даезд.

Добрую дарогу маюць вёскі Трасцянка, Анцуты, Рагачы, Іванкі, Агароднікі, Ванева, Даратынка, Янова, Ласінка.

У гэтым годзе будавалася дарога ў вёску Рыбакі, дзе гайнаўскія прадпрыемствы будуюць цэнтр адпачынку. Распачалася будова дарогі ў вёску Адрынкі.

Вялікую дапамогу пры будове дарог аказваюць жыхары навакольных вёсак і працаўнікі нараўскіх устаноў, якія неаднойчы прымалі ўдзел у грамадскіх чынах.

Трэба яшчэ адзначыць, што жыхары асады Нараў правялі ў сябе парадак — пачысцілі стары рынак, пагарадзілі платы.

У Нарве будуецца мост. Будову вядзе Раён эксплуатацыі публічных дарог у Бельску Падляшскім.

**Э. Вайсковіч**

## Больш такіх!

Даўно ўжо існуе ў Тафілаўцах добраахвотная пажарная каманда. Узначальвае яе селянін Іван Раля. Камендант вельмі дбае пра сваю каманду і пажарнікаў. У час акцыі пануе дысцыпліна і парадак. Хаця тафілаўскія пажарнікі не маюць пакуль што ўласнага пажарнага аўтамабіля (даязджаюць трактарам з мясцовага сельгасгуртка), аднак былі частыя выпадкі, што яны першыя прыязджалі на пажар.

Тафілаўская пажарная ахова налічвае 27 пажарнікаў. Гэта дысцыплінаваныя і адважныя хлопцы. Яны заваявалі аўтарытэт у людзей і ў свайго кіраўніцтва. У іх свая невялікая раміза, а плануюць пабудаваць другую, прасторную (фундамент ужо зроблены).

Іван Раля мае шмат узнагарод, між іншым, Сярэбраны Крыж Заслугі.

**М. Панфілюк**

## Школа ў Дубяжыне

У школу, што ў Дубяжыне, ходзяць дзеці з навакольных вёсак. Вучыцца ў ёй 108 вучняў. У школе працуе 7 настаўнікаў. Усе, акрамя адной настаўніцы, даязджаюць. Дзякуем вам, настаўнікі, за ваш труд.

**Янка Нікіцюк**
**Валерык Мусько**

### ВУЛІЦА Ў ВЁСЦЫ ТРЫВЕЖА



Наш карэспандэнт сваім фотаапаратам глянуў на дзве эпохі ў вёсцы Трывежа на Гайнаўшчыне. Колькі дум наводзяць гэты від! Электрычнасць, прыгожы дом і пакінутая хацінка, якая дажывае свае апошнія дні. **Фота Я. М.**

## Дзе вадзе падзецца?

Ва ўсходнім канцы вёскі Слоя, з боку вёскі Кнышэвічы, брук абніжаецца. Калі ідзе дождж, або на прадвесні, вада тут рве брук, і на вуліцы тады стаяць вялікія лужыны.

Калі гэты брук на вуліцы клалі, дык людзі казалі дарожнаму тэхніку і інжынеру, што ў гэтым месцы неабходна палажыць пропуст, бо месца тут ніжэйшае і вада будзе рваць брук. Але яны адказвалі людзям, што спецыялісты ведаюць лепш, як рабіць. Казалі, што вада пойдзе пад мост, які знаходзіцца 150 метраў далей. Аднак людзі мелі рацыю, і цяпер яны хочуць, каб прыехалі з ПЗДЛ у Саколцы і паглядзелі. Даволі ўжо па некалькі разоў у год латаць гэты брук на вуліцы ў Слоі. Трэба раз зрабіць пропуст.

**Т. К.**

## Пункт Плянта

Несцярук Мікалай — працаўнік ПКП, кіруе перагрузачным пунктам у Плянце. На чыгунцы працуе ўжо 20 год. Жыве на калёніі Новага Ляўкова. У яго немалая гаспадарка і многа свіней, таксама некалькі кароў. Гэта добры гаспадар.

Перагрузачны пункт, якім кіруе Мікалай Несцярук, ужо 3 гады з'яўляецца перадавым. На пункце лад і парадак. Ёсць тут спартыўная пляцоўка для валейбола. Летам і ўвосень разыгрываюцца тут матчы.

Спартыўную пляцоўку грамадскім чынам падрыхтавалі працаўнікі пункта — члены ЗМС. У чыне прыняў удзел і кіраўнік пункта. Пункт Мікалая Несцярука прымае ўдзел у спаборніцтве ўсіх пунктаў перагрузачнага раёна Семяноўкі. Яны вераць, што заваююць найлепшае месца.

**Ружа**

## На бельскіх перонах

Ехаў я неяк поездам з Беластока ў Гайнаўку, і ў Бельску мне трэба было чакаць каля гадзіны. Я на ўсёй трасе з Беластока ў Гайнаўку не бачыў перонаў у такім дрэнным выглядзе, як у Бельску. Першы перон можна яшчэ прайсці, але на другім і трэцім трэба вельмі ўважліва глядзець, каб не паламаць ног.

Шкада, што гэтага не бачыць начальнік станцыі. Адрамантаваць жа сапсаваныя пероны не так цяжка і не дарага каштавала б. Павыбіваныя месцы трэба проста заліць цэментам. Гэта маглі б зрабіць грамадскім чынам самі работнікі бельскай станцыі ў рамах 30-годдзя краіны.

**Раса**




### ДАРОГА ЛІПІНЫ — ГАЙНАЎКА

**Адказвае:** Urząd Gminy w Hajnówce.

W odpowiedzi na notatkę prasową „Lipińcy też ludzie", która ukazała się w waszej gazecie Nr 35 (966) z dnia 1 września 1974 r. zawiadamiam, iż budowa drogi Lipiny—Hajnówka o długości 0,5 km została uzgodniona z PZDL w Hajnówce i w związku z tym będzie ujęta do planu społeczno-gospodarczego rozwoju gminy w latach 1975/76.

**Podpisał: Sekretarz Biura**
**mgr Stefan Oniszczuk**

Do wiadomości: PZDL w Hajnówce

## Наша ПОШТА

**Галена Юзвюк, Істок.** Верш „Чаромуха“ надрукуем. Другі „Дзе ж падзелася“ вымагае вельмі вялікай дапрацоўкі. Старайцеся пісаць значна карацейшыя вершы.

**Ліс.** Яшчэ раз звяртаемся з просьбай: — аб'явіцеся, хто вы? Інакш не можам надрукаваць інфармацыю „Будова святліцы ў Міклашах“.

**Валя Анішчук.** Верш „...Дождж ліе“ надрукуем, а „Лене“ — слаба прадуманы, асабліва ў заканчэнні.

**Міраслаў Бусловіч, Аўгустова.** Надрукуем ваш верш „Ужо восень“.

**Ніна Матысюк.** Вашы вершы будуць надрукаваны ў „Белавежы“. Дашліце сваю кароткую аўтабіяграфічную даведку і здымак.

NIWA 15-950 Skr. poczt. 149 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch" Indeks 36811.




З РУСКАГА

## СПРАВА ПРЫНЦЫПУ

У кабінет дырэктара ўваходзіць малады чалавек.

— Выбачайце, вам патрэбны эканамісты?

— Ваша прозвішча? — спытаў дырэктар.

— Іваноў.

— Іваноў?!

— Так.

— Даруйце, не можам вас прыняць.

— Чаму? — са здзіўленнем пытае малады чалавек.

— Справа ў тым, што мае прозвішча таксама Іваноў.

— Ну і што?

— Як што! Пойдуць гутаркі... Сямейнасць мне прыпішуць. Няўжо вы не разумееце? Тут справа прынцыпу.

— Дык мы ж з вамі не сваякі!

— Гэтага нікому не дакажаш.

— Чаму ж не дакажаш?.. У мяне дакументы. Вось глядзіце... Я з Тамбова. Мой бацька Павел Іванавіч Іваноў...

— Паўлуша! Брат! — ускаквае раптам дырэктар. — Вось ён дзе — у Тамбове! Чаму не піша, шэльма?

Малады чалавек здзіўляецца.

— Я нічога не разумею...

— Пляміш! Дарагі! Пацалуй свайго стрыечнага дзядзьку!

Сваякі цалуюцца. Дырэктар выцірае непрошаную слязу.

— А як наконт афармлення? — нясмела пытае малады чалавек.

— Аб чым гутарка! Што я, роднаму пляменніку не памагу?!

— Дык жа сямейнасць...

— Глупства! Хто даведаецца? А мо, ты мой аднафамілец!.. Ты лепш скажы, як там мамка маецца, Машунька наша?

— Мама нічога, здаровая... Толькі яе не Маша завуць...

— Як гэта не Маша?

— Яна Таццяна Мікалаеўна Іванова.

— Таня, значыць. Не Маша... — Дырэктар абцірае на сабе касцюм. — Прабачце, малады чалавек, здарылася памылка... Мы з вамі проста аднафамільцы.

— Дык я магу ісці ў аддзел кадраў?

— Не, — гаворыць дырэктар, — аднафамільцаў я прыняць на працу не магу... Гутаркі пойдуць. Няўжо вы не разумееце?..

**Б. Брыкер, А. Вішнеўскі**




З башкірскага

## КАЛІ ЯК...

— Ці трэба слухацца жонкі? — спытаў селянін у мулы.

— Не трэба, — адказаў мула.

— Я так і зрабіў. Жонка прасіла прынесці табе гаршчок каймаку, а я не паслухаўся. Правільна я зрабіў?

— Разумнай жанчыны не грэх і паслухацца, — са скрухай уздыхнуў мула.




З азербайджанскага

## ТАДЫ ЯНЫ ЗРАЗУМЕЮЦЬ

*(з новых анекдотаў Насрадзіна)*

Жыхарка сяла Малу Кубатлінскага раёна, маці пецярых дзяцей, Гюльзар Мамедава звярнулася да Малы Насрадзіна з такой скаргаю:

„Я працую прыбіральшчыцай у сельскай школе. Вось ужо чатыры месяцы, як дырэктар школы А. Ісмаілаў не дае мне зарплаты. Ён гаворыць: „Ідзі да загадчыка райана Заманава, няхай ён табе заплаціць". А загадчык райана накіроўвае мяне да старшыні сельсавета. Вось так я і хаджу ад аднаго начальніка да другога".

Насрадзін сярдзіта паківаў галавою:

— Трэба сказаць старшыні райвыканкома, каб ён хоць бы на месяц затрымаў іх аклады. Тады яны зразумеюць, што значыць жыць без зарплаты.

**М. Алі-Задэ, А. Ях'еў**

## МІНІВЕРШЫ

З таджыкскага

### ВЫПРАЎЛЕННЕ

Выпраўляцца ён пачаў
І вучыцца на памылках:
Каяўся ў старых з ухмылкай,
А пра новыя маўчаў.

**Басір Расо**

З марыйскага

### ЗРАБІЛА ВЫВАД

Назвалі беларучкаю яе...
Дзяўчына зразумела, што хацелі, —
На пляжы прападала кожны дзень,
Каб рукі хоць на тыдзень... пачарнелі.

**Яўгені Навічыхін**

З грузінскага

## АПЕРАТЫЎНЫ АЎТАР

— Скажыце, шаноўны, вы аўтар нарыса пра майго дзядзьку?

— Але, я.

— Я прыйшоў падзякаваць вам за добрую ацэнку дзейнасці майго любімага, дарагога дзядзечкі, ды толькі...

— Ну што вы! Ваш дзядзька заслугоўвае значна большага. Гэта ж такі чалавек!..

— Нарыс выдатны, ды толькі...

— Які-небудзь факт не правільна адлюстраваны?

— О, не! Усё ў парадку, ды толькі...

— Кажыце смялей, не саромейцеся. На памылках мы вучымся.

— Ніякай памылкі, шаноўны, ды толькі... Ужо два гады мой дзядзька не працуе на гэтым месцы.

— Перавялі куды-небудзь?

— Два гады назад ён памёр...

## САМАЕ ТРУДНАЕ

Малады лекар пытае ў стэрэйшага калегі:

— Скажыце, што самае труднае ў нашай прафесіі?

— Даведацца, якое блюда пацыент любіць больш за ўсё.

— Навошта?

— Каб можна было забараніць яго.



...Ён зайздросціў вавёрцы ў коле: і на месцы не стаіць, і з дарогі не саб'ецца.

...Ён чалавек і добры, і скромны, а вось не ўмее гэта паказаць.

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*По просьбе Тамары Кардаш з Белостока змяшчаем папулярную рускую песню*

## СТЕПЬ ДА СТЕПЬ КРУГОМ

**Стихи И. Сурикова, Музыка народная**

Степь да степь кругом,
Путь далек лежит,
В той степи глухой
Умирал ямщик.

И, набравшись сил,
Чуя смертный час,
Он товарищу
Отдает наказ:

„Ты, товарищ мой,
Не попомни зла,
Здесь, в степи глухой,
Схорони меня!

Ты лошадушек
Сведи к батюшке,
Передай поклон
Родной матушке.

А жене скажи
Слово прощальное,
Передай кольцо
Обручальное.

Да скажи ты ей —
Пусть не печалится,
Пусть с другим она
Обвенчается.

Про меня скажи,
Что в степи замерз,
А любовь ее
Я с собой унес".




— А гэта, дзеці, гома сапіенс...







## ХТО ЛЕПШ АПІСВАЕ?

Паспрачаліся аднойчы два паны пра тое, які пісьменнік лепш піша.

— Па-мойму, — кажа адзін, — найлепш апісвае Талстой. Ён як апіша кожную раслінку, кожную травінку — як жывую.

— Не! — кажа той.

— Ну, тады найлепш апісвае Тургенеў!

— Не, — запярэчыў зноў той.

А збоку стаяў селянін. Слухаў ён, слухаў панскую мову, а тады і кажа:

— А па-мойму, найлепш апісвае наш судовы прыстаў. Ён як апіша, дык да апошняй сарочкі!

## АРМЯНСКІЯ ПРЫМАЎКІ

Пасадзі дурнога за справу, ён табе яшчэ больш спраў накіне.

Дзе мір і згода, там і баваўна расце.

Яны такія блізкія сябры, што пакладзі між імі яйкі — зварацца.

У цябе два вухі і адзін рот: таму двойчы паслухай, раз скажы.

Не, не, узяць не магу, пакладзіце мне ў кішэню.

Калі асёл заўпарціцца, ён спыніцца на самым вузкім месцы.




## НАВЕДВАЛЬНІКІ ШУКАЮЦЬ ВЫХАД

Прывабны выгляд мела шыльда ля дзвярэй музея ў штаце Дакота: „Уваход бясплатны". Наведвальнікаў чакала многа сюрпрызаў у экспазіцыі, дзе былі выстаўлены хатнія рэчы, зброя, упрыгожанні і іншыя прадметы ўжытку старажытных індзейцаў. Агледзеўшы экспанаты, яны, натуральна, накіраваліся да выхаду. Тут іх падпільноўваў апошні, але, на жаль, непрыемны сюрпрыз: за выхад трэба было... плаціць.

## СУДЗЯЦЬ КАМП'ЮТЭР

Амстэрдамскі суд, на падставе іску адміністрацыі мясцовай суднаверфі, „арыштаваў"... ЭВМ, прызнаўшы яе „небяспечнай для прысутных". Машына абвінавачвалася ў тым, што зроблены ёю каштарыс затрат на будаўніцтва новага рэфрыжэратара быў у некалькі разоў перавышаны ў ходзе будаўнічых работ. У выніку судна замест запланаванага прыбытку прынесла ўладальнікам верфі адны страты. Пад націскам пацярпеўшых суд узбудзіў справу супраць фірм, якія выпускаюць такія ненадзейныя „электронныя мазгі".

## ЦЫРУЛЬНІКІ ПЕРАД ФАКТАМ БАНКРУЦТВА

Мода на доўгія валасы пагражае беспрацоўем вялікай колькасці цырульнікаў. Таму прафсаюз цырульнікаў у Шры Ланка, які аб'ядноўвае 80 тысяч майстроў, уручыў ураду петыцыю, у якой настойвае на прыняцці закону, які забараняў бы маладым мужчынам насіць доўгія валасы.




**Калі загадчык склада скардзіцца на мышэй, то трэба паглядзець, ці не з'явілася ў яго жонкі новае футра?**